*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

**№ 46 (4401)**

14 чэрвеня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВІЗІТ




## Аляксандр Лукашэнка – у Бішкеку

Знаходзячыся з двухдзённым візітам у Кыргызстане, А.Лукашэнка возьме ўдзел у пасяджэнні Савета кіраўнікоў дзяржаў Шанхайскай арганізацыі супрацоўніцтва, у якой Беларусь мае статус назіральніка.

Першае пасяджэнне сумеснай групы па выпрацоўцы прапаноў па далейшым развіцці беларуска-расійскай інтэграцыі адбудзецца 15 чэрвеня ў Маскве.

ДЫПКУР'ЕР

## Дзякуй вам, Петэр Дэтмар!



Уладзімір Макей (справа) выказвае словы ўдзячнасці Петэру Дэтмару.

Надзвычай эмацыянальна-кранальным атрымалася развітанне Беларусі з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Германіі Петэрам Дэтмарам. Вечарына, якая пазаўчора прайшла ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёханэса Рау, была не падобнай на афіцыйнае мерапрыемства.

Сотні самых розных людзей з'явіліся, каб пацiснуць вядомаму дыпламату руку, сказаць словы ўдзячнасці за яго плённую работу на карысць двух народаў – нямецкага і беларускага. У знак асобай даніны павагі да Петэра Дэтмара, міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Макей выступіў з прамовай на нямецкай мове (вядома ж, ён добра валодае беларускай, рускай, англійскай і іншымі). Ім была высока ацэнена дыпламатычная дзейнасць Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Германіі ў Беларусі Петэра Дэтмара. Раней, дарэчы, гэта публічна прагучала з вуснаў Аляксандра Лукашэнкі.

*«Нам вельмі шкада развітвацца з людзьмі, якія шмат зрабілі для двухбаковых адносін і станоўчага іміджу Германіі ў нашай краіне»,* – сказаў Уладзімір Макей і пажадаў П.Дэтмару і яго сям'і ўсяго найлепшага ў будучым.

Калі браць агульна, то нямецкі дыпламат правёў у нашай краіне восем гадоў, апошняя вакацыя была ў ролі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла. Многага, вельмі многага ўдалося яму дасягнуць. У сваёй прамове Петэр Дэтмар падкрэсліў: *«Кульмінацыяй стаў, без сумненняў, візіт прэзідэнта Федэратыўнай Рэспублікі Германія Штайнмаера ў канцы мінулага года па запрашэнні прэзідэнта Лукашэнкі ў сувязі з афіцыйным адкрыццём другой чаргі мемарыяла «Трасцянец» ва ўрочышчы Благаўшчына. І ў гэтым выказваецца галоўная мэта, якая стаяла і стаіць перад пасольствам і мною акрамя паўсядзённых задач, а менавіта мэта ў тым, каб разам захоўваць памяць аб жахах Другой сусветнай вайны, што, па маім глыбокім перакананні, мае асаблівае значэнне і павінна захоўвацца на тэрыторыі сённяшняй Рэспублікі Беларусь!»*

…Некалькі гадзін доўжыліся праводзіны ўсімі паважанага Петэра Дэтмара. На развітанне беларусы жадалі яму і яго жонцы Ільке доўгіх гадоў жыцця, запрашалі наведваць нашу краіну ў новым статусе. На вачах многіх, заўважалася, з'яўляліся слёзы. Так бывае, калі ад нас з'язджае цудоўны чалавек.

**Антон КАРПІЦКІ.**

SOS!

## Аварии могла способствовать жара

*Шесть человек, из них четыре ребенка, оказались знойным днем 12 июня в Солигорской больнице в результате ДТП.*

В этот день в 15 часов 55 минут на дороге Р-55 Бобруйск–Глуск–Любань рядом с деревней Погост Солигорского района автомобиль Renault Megane, за рулем которого была 38-летняя жительница Слуцка, столкнулся лоб в лоб с МАЗ-650118. Как информирует УГАИ УВД Минского облисполкома, столкновение машин случилось по причине того, что автомобиль случанки, выезжая со второстепенной дороги, не уступил двигавшемуся по главной дороге МАЗу.

38-летняя водитель Renault Megane, ее десятилетний сын, а также 39-летняя пассажирка (гражданка РФ из Санкт-Петербурга) и две дочки девяти и восьми лет, а также ее 15-летний племянник были травмированы и доставлены в Солигорскую больницу.

Водитель МАЗа не пострадал.

Выяснилось, что травмированные в ДТП дети не были пристегнуты, не находились в специальных удерживающих устройствах.

В жару за рулем нужно быть особенно собранным, не расслабляться, так как зной способствует быстрой утомляемости, реакция у водителей ухудшается. Об этом, сообщая о данном ДТП, напоминает Госавтоинспекция.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА



## Брестские страсти-мордасти

12 июня председатель Брестского облисполкома **Анатолий Лис** уверил представителей протестующих против открытия в городе аккумуляторного завода, что, если сведения о превышении содержания вредных веществ в выбросах завода в атмосферу подтвердятся, разрешение на открытие предприятия будет отозвано.

Этому событию предшествовал целый ряд других, включая попытки не допустить или разогнать мирные акции протеста, возбудить дело против одного из их лидеров и так далее. И сейчас не видно, чтобы власть пошла на уступки. Несмотря на то, что повод для подобных заявлений серьезный – информация о превышении норм содержания вредных веществ в выбросах содержалась в докладе областной экологической инспекции, нет оснований полагать, что мы не имеем дело с обычным для любой бюрократии методом – «тянуть резину». Вроде бы и подтверждение есть, но нужно еще, еще и еще раз проверить. Как долго будут проверять – протестующим никто не говорит. А тем временем пройдут Европейские игры, 1000-летие города Бреста, а может быть, и парламентские выборы. И уж после этого голосов протеста и вовсе никто не услышит.

Однако показательно, что накануне встречи Анатолия Лиса с тринадцатью представителями протестующих свою пресс-конференцию провел руководитель ООО «АйПауэр» **Сергей Мельникович**. Цитируем его слова: «Если дойдет до того, что нас будут закрывать, мы точно так же, как и они, выйдем, мы тоже будем протестовать. У нас такие же права, как и у них».

Действительно, права такие же – в части протеста. Возможности, правда, несколько меньше – с моей точки зрения. Трудно, знаете ли, представить, как сотрудники этого самого «АйПауэр» будут протестовать против закрытия завода, если повторная экспертиза действительно подтвердит несоответствие выбросов экологическим нормам. С каким лозунгом они пойдут на главную площадь Бреста? «Верните наше право травить горожан вредными веществами»? Разумеется, нет. Скорее всего, под лозунгом: «Обеспечьте наше право на рабочее место!» Ну, ответит им, наверное, Анатолий Лис: пусть ваше руководство приведет очистные сооружения в соответствие с нормами – и работайте.

А дальше уже – как получится. Может быть, и приведут. Только проверять новое оборудование на предмет соответствия нормам будет, скорее всего, та экспертная служба, которая проверяла сам проект. И она сказала, помнится, что там всё хорошо, прекрасная маркиза… А уж как оно на самом деле будет – бывшим протестующим уже никто не объяснит.

В доказательство приведем пример.

Куропаты.

Какой скандал вызвал в свое время проект строительства объекта пищеторга под названием «Бульбаш-холл», помните? И совершенно справедливо люди возмущались тогда: столь издевательское название было дано ресторану, расположенному в нескольких десятках метров от места захоронения жертв массовых репрессий. И что? Название сменили, недостроенный объект продали, ресторан, как и скандал, остались на своем месте.

Скорее всего, примерно такая же ситуация сложится и сейчас.

Тогда к чему эти демонстративные заявления господина Мельниковича? Он что – действительно думает, что его предприятие закроют? Но даже если и закроют, то заявление о протестах выглядит в полном соответствии с пресловутой шуткой о попытке испугать ежа, простите за натурализм, голой задницей. Ибо понятно, что наши власти, коль уж точно захотят закрыть, то закроют, несмотря ни на какие протесты.

Думаю, ситуация в другом.

Как в свое время хозяевам опостылевшего всем ресторана вблизи Куропат дали понять – мол, ребята, вы тоже не сидите сложа руки, а что-нибудь там делайте, чтобы снять напряжение, – так и сейчас то же самое наверняка сделали по отношению к хозяевам аккумуляторного завода. Только господин Мельникович не вполне понял, чего именно от него хотели (если и впрямь такой намек был сделан). Ему бы пойти к протестующим против завода с документацией в руках и показать истинные показатели по выбросам. Но если он этого не делает, то или протестующие протестуют по делу, или кто-то свыше намекнул: братан, спокойно, всё у тебя будет хорошо…

И вот это – плохо.

То есть плохо не то, что всё хорошо будет с заводом господина Мельниковича. Плохо то, что брестчан считают недостаточно крупным «ежом», чтобы с ними действительно разговаривать по существу. Вот мячик и перебросили опять на поле местной власти: если вы начнете нас давить, то мы выйдем протестовать…

И так перебрасываться мячиком можно долго. Очень долго. А люди ждать, похоже, устают…

ЧУЛІ?

## Віцебскі праваабаронца Павел Левінаў лічыць, што на яго рыхтаваўся замах

На сваёй старонцы ў "Фэйсбуку" віцебскі праваабаронца П.Левінаў сцвярджае, што пазамінулай ноччу невядомыя парэзалі тармазны шланг у ягонай машыне і што гэта магло прывезці да трагедыі.

– *На станцыі тэхабслугоўвання мне паказалі разрэзаны тармазны шланг і перарэзаны дрот,* – распавёў П.Левінаў. – *Я быў вымушаны звярнуцца ў міліцыю, напісаўшы ў заяве, што я расцэньваю гэта як замах на сваё жыццё. У мяне спыталіся, якая сума нанесенага мне ўрону. На што я мусіў адказаць, што справа не ў гэтым – што гэта замах не толькі на маё жыццё, але і на жыцці неабмежаванай колькасці людзей. Бо невядома, куды машыну магло занесці – на ходнікі, у натоўп на прыпынку, на сустрэчную машыну, і якія маглі б быць наступствы – не вядома.*

Зусім нядаўна машына праходзіла тэхагляд, і ніякіх прыкмет дэфекту ў тармазнога шланга не было выяўлена. Да ўсяго, аўто П.Левінава даволі новае, і выразна бачна, што на астатніх трох колах тармазныя шлангі ў поўным парадку і без прыкметаў зношанасці.

Міліцыя вымушана правесці праверку па заяве вядомага праваабаронцы.

**Кастусь ЛІПСКІ.**

З НАГОДЫ

## Сяргей ВАРЫВОДА: «Я за тое, каб дарожны збор быў уключаны ў кошт бензіну»

*Намеснік старшыні Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі распавёў «Народнай Волі», якім чынам можа быць трансфармаваны дарожны падатак.*

Нагадаем, што дзяржаўная пошліна за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху была ўведзена ў Беларусі з 2014 года.

Гэтая норма выклікала мноства нараканняў з боку аўтамабілістаў, а не так даўно былі агучаны такія лічбы: тэхагляд з 4,2 мільёна зарэгістраваных у Беларусі аўто прайшлі толькі 1,24 мільёна машын! І такая тэндэнцыя назіраецца менавіта з 2014 года.

Вадзіцелі, якія рэдка карыстаюцца сваімі машынамі, скардзяцца, што плаціць ім трэба гэтак жа, як і тым, хто ездзіць штодзень. Таму многія падлічылі: лепш заплаціць штраф за тое, што не прайшоў тэхагляд (а без квітанцыі аб аплаце дарожнага падатку яго не пройдзеш), чым штогод плаціць вялікія сумы.

І вось зараз, паводле слоў міністра фінансаў Беларусі **Максіма Ермаловіча**, урад распрацаваў альтэрнатыўныя варыянты выплаты дарожнага збору: памесячныя плацяжы і ўключэнне падатку ў кошт паліва. Першы варыянт прадугледжвае магчымасць самому аўтааматару выбіраць, за які тэрмін плаціць.

Паводле слоў Ермаловіча, рэалізаваны будзе адзін з двух прапанаваных варыянтаў.

– Гэтае пытанне абмяркоўвалася ўжо даўно – яшчэ пры рабоце над новай рэдакцыяй Падатковага кодэкса, – кажа намеснік старшыні Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі **Сяргей ВАРЫВОДА.** – Пакуль не вядома, на чым спыняцца.

**– На ваш погляд, які варыянт больш падыходзіць беларускім аўтааматарам?**

– Напэўна, больш справядлівым было б, каб аўтамабілісты плацілі толькі за перыяд эксплуатацыі машыны. Напрыклад, аўто стаіць у гаражы цэлую зіму – ты нічога не плаціш. Летам трэба не лецішча – заплаціў і паехаў.

Пры гэтым ёсць і іншы момант. Кошт на паліва ў Беларусі пастаянна расце, і пры гэтым захоўваецца стратнасць нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў. Таму мы разумеем, што




варыянт уключэння збору ў кошт паліва прывядзе да дадатковага ціску на цэны на бензін, а гэта скажацца не толькі на грамадзянах, але і ўвогуле на эканоміцы. Хаця асабіста я выступаю менавіта за другі варыянт.

**– З-за высокіх ставак транспартнага падатку амаль кожны трэці ўладальнік аўто не праходзіць тэхагляд…**

– Гэта і стала вынікам увядзення збору. Аўтааматару больш выгадна заплаціць 1–2 разы ў год штраф за тое, што не прайшоў тэхагляд, чым плаціць збор. Чыстая матэматыка, людзі ўмеюць лічыць.

І тут дзяржава ўскосна таксама губляе. Структуры, якія займаюцца правядзеннем тэхнічных аглядаў, не атрымліваюць неабходны прыбытак і, адпаведна, таксама не даплачваюць у бюджэт пэўную суму падаткаў.

Таму я ўпэўнены, што пытанне будзе вырашана. І калі б не праблема з падатковым манеўрам, які будзе цісну на кошты на паліва на ўнутраным рынку, то не было б сумненняў, што трэба ісці па другім варыянце.

**– А як вы ацэньваеце велічыню дарожнага збору, які беларусы сёння плацяць дзяржаве?**

– Безумоўна, кожны чалавек не любіць плаціць падаткі, але, на мой погляд, гэты збор павінен быць меншы разы ў два. Зразумела, што грошы ідуць на рамонт і добраўпарадкаванне дарог, гэта таксама патрэбна аўтааматарам, але сумы збору ўсё роўна завышаны.

**Алесь СІВЫ.**

ПАЛІТКУХНЯ

# Чым займаецца адстаўны старшыня АГП Васіль Палякоў?

*Год таму ён паставіў антырэкорд па тэрміне знаходжання на пасадзе кіраўніка партыі.*

Нагадаем, што **Васіля Палякова** абралі лідарам Аб'яднанай грамадзянскай партыі 8 ліпеня мінулага года. Ён змяніў у гэтым крэсле **Анатоля Лябедзьку**, які кіраваў партыяй аж 18 (!) гадоў.

*«Галоўнае зараз для партыі і для мяне як для кіраўніка – гэта зрабіць больш адкрытай пляцоўку для прыняцця рашэнняў у арганізацыі*, – аптымістычна казаў новаабраны старшыня. – *Таксама прыярытэтам з'яўляецца не тое, каб мы вырашалі адносіны з іншымі партыйнымі структурамі, з іншымі арганізацыямі, а каб пад бліжэйшую прэзідэнцкую кампанію дамовіліся і правялі адкрыты праймерыз і выйшлі на адзінага кандыдата ад апазіцыі».*




Амбіцыёзныя планы Палякова, як аказалася, так і засталіся планамі. І ён, бадай што, стаў антырэкардсменам па тэрміне знаходжання на кіруючай партыйнай пасадзе: ужо праз два месяцы, 23 верасня, Васіль Палякоў нечакана звярнуўся ў Палітсавет з заявай аб адстаўцы.

*«Я не зусім уяўляў, якія праблемы і выклікі стаяць перад партыяй*, – шчыра прызнаўся ён. – *Да таго ж сітуацыю ўскладніла немагчымасць майго пераезду з Гомеля ў Мінск».*

– Зараз, як і раней, жыву ў Гомелі, – кажа Васіль Палякоў. – На бліжэйшую перспектыву з планамі ўжо вызначыўся – падчас парламенцкай кампаніі буду ментарам для кандыдатаў альбо спікераў ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Натуральна, ім патрэбна пэўная метадычная дапамога, а ментар – гэта якраз той чалавек, які можа нешта параіць, даць юрыдычныя парады і падрыхтаваць рознага кшталту дакументы, падзяліцца вопытам. Усім гэтым і збіраюся заняцца.

**– Ужо маеце досвед такой працы?**

– Так, я быў ментарам у 2016 годзе і падчас кампаніі выбараў у мясцовыя Саветы ў 2018 годзе.

**– Лічыце, што такая дапамога неабходна кандыдатам?**

– Справа ў тым, што не ўсе маюць юрыдычную кваліфікацыю і не заўсёды могуць добра спланаваць сваю працу падчас кампаніі. Таму чаму б і не скарыстацца досведам аднапартыйцаў, якія, што называецца, у тэме?

Мая ж задача, каб чалавек пры мінімальных рэсурсах мог іх найбольш эфектыўна выкарыстаць.

**– Партыя ўжо вызначылася з фарматам удзелу ў парламенцкіх выбарах?**

– Мы будзем праводзіць кампанію прыкладна ў такім жа фармаце, як гэта было падчас выбараў у мясцовыя Саветы ў 2018 годзе. Адным словам, у кампаніі ўдзельнічаем, працуем у акругах, дзеля таго каб прадстаўляць альтэрнатыву і распавядаць людзям пра тыя праблемы, якія сёння існуюць у краіне і грамадстве.

Найпершасная мэта – працаваць з людзьмі, а не канцэнтраваць увагу на тым, што ўлада дрэнная і ўсё наогул дрэнна.

**– Адразу пасля таго, як пакінулі пасаду старшыні АГП, чым займаліся?**

– Часткова праваабарончай дзейнасцю, таксама патрэбна было закончыць пэўныя справы, у тым ліку і па партыйнай лініі. Без работы не сядзеў.

**– Сёння няма шкадавання, што год таму пакінулі крэсла партыйнага лідара?**

– Зыходзячы з сітуацыі, якая была на той момант у Аб'яднанай грамадзянскай партыі, рашэнне, якое я прыняў год таму, і сёння мне здаецца на сто працэнтаў правільным. Маё старшынства толькі нашкодзіла б і мне, і партыі.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

И В ШУТКУ, И ВСЕРЬЕЗ

# …И милиция будет пылинки сдувать с оппозиционеров

Уважаемые лидеры партий и общественных движений! Все вы уже подумываете о предстоящих парламентских выборах. Подбираете кандидатов, ищете ресурсы, размышляете о специфике избирательных технологий. Не исключаю, что и на этот раз сильных оппозиционных претендентов начнут отсеивать задолго до выдвижения. Хочу подсказать, как этого избежать.

Александр Лукашенко, назначая нового министра МВД, высказал такое пожелание:

*«Тот, кто заслуживает, чтобы его поддержали и даже пьяного домой отвезли, – так надо и сделать. Тот, кто заслуживает по башке или по морде, – должен получить. Все должно быть честно и справедливо. Это ваш принцип работы».*

Ну как тут не согласиться с президентом! Те же партийные активисты все как один заслуживают поддержки. Но милиция должна знать их поименно. Вот я и предлагаю лидерам партий составить пофамильные списки будущих претендентов на парламентские мандаты и отправить их тому же только что назначенному министру внутренних дел Юрию Караеву. В приложении к ним написать, что все будущие претенденты на парламентские должности являются трезвенниками, и даже если кто-то из них после бани кульнет чарку за независимость и суверенитет Беларуси, то такого милиционеры должны поддержать и завести домой, как это указал А.Лукашенко. Все мы знаем, что он очень не любит, когда его поручения не выполняются. Теперь милиция должна пылинки сдувать с оппозиционеров.

**Владимир ПОДГОЛ, кандидат философских наук.**

ПА ЧУТКАХ І…

# Дранеўскія за кратамі

*«Народная Воля», у мяне для вас сенсацыя! – патэлефанаваў у рэдакцыю наш даўні і сталы чытач Яўген Конаш. – Кажуць, што затрыманы летам мінулага года кіраўнік Браслаўскага раёна Уладзімір Дранеўскі ўжо на волі, працуе ў Шаркаўшчынскім раёне. Не маглі б вы ўдакладніць гэтую інфармацыю? Бо глупства нейкае атрымліваецца: затрымалі яго з жонкай за хабар, а цяпер, выходзіць, адкупіўся ён ці што?»*

Вядома, гэта паведамленне больш нагадвала звычайныя чуткі, але не звярнуць на яго ўвагу мы не маглі, бо ў Беларусі такая практыка існуе. Напрыклад, ад крымінальнага пераследу ў мінулым годзе яшчэ да суда быў вызвалены былы галоўны ўрач Рэспубліканскай клінічнай бальніцы медыцынскай рэабілітацыі ў Аксакаўшчыне **Віктар Масла**. Яшчэ раней – былы кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна Мінска **Валерый Кулеш**. Іх таксама, як і У.Дранеўскага, абвінавачвалі ў атрыманні хабару і перавышэнні службовых паўнамоцтваў, затрымлівалі і змяшчалі ў СІЗА. Але пасля завяршэння расследавання гэтых спраў Следчым камітэтам да суда яны не дайшлі. Мяркуючы па ўсім, былыя чыноўнікі звярнуліся з просьбай аб памілаванні да А.Лукашэнкі, да іх была прыменена эканамічная амністыя.

Аднак былы кіраўнік Браслаўшчыны да гэтага часу знаходзіцца пад крымінальным пераследам.

*«Расследаванне працягваецца. Абвінавачанне, як і мера стрымання, застаюцца ранейшымі і ў дачыненні да былога кіраўніка Браслаўскага райвыканкама, і да яго жонкі»*, – паведамілі нам у Следчым камітэце.

Уладзімір Дранеўскі – экс-старшыня Браслаўскага райвыканкама – быў затрыманы ў чэрвені мінулага года. Скандал грымнуў небывалы, таму што разам з ім была затрымана і яго жонка **Алена** – начальнік аддзела эканомікі выканкама. *«Устаноўлена, што з красавіка 2016 года па май 2018 года кіраўнік раёна сістэматычна атрымліваў хабар за вырашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю*, – паведамлялася на сайце МУС. – *Сума незаконнага ўзбагачэння склала не менш за 27,9 тысячы еўра. Мужчына дзейнічаў пры дапамозе сваёй жонкі – начальніка аддзела эканомікі Браслаўскага райвыканкама, якая таксама затрымана.*

*Акрамя гэтага, аператыўнікі маюць дадзеныя, што затрыманы на працягу апошніх двух гадоў незаконна запатрабаваў і атрымаў частку выплачаных прэмій работнікам выканкама, перавышаў свае службовыя паўнамоцтвы пры ажыццяўленні закупак таварна-матэрыяльных каштоўнасцяў».*

Пазней Следчы камітэт паведаміў, што ў дачыненні да экс-старшыні Браслаўскага райвыканкама і ягонай жонкі распачаты крымінальныя справы па ч.3 арт.430 КК (атрыманне хабару альбо у асабліва буйным памеры, альбо арганізаванай групай), а ў дачыненні да Дранеўскага яшчэ і па ч.3 арт.426 КК (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў). Санкцыі па выстаўленых артыкулах прадугледжаны суровыя – пазбаўленне волі ад пяці да пятнаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ВОЛНУЮЩАЯ ТЕМА

# Про уродов и людей

Я очень хотела посмотреть в глаза этому человеку. Сильно нетрезвый, он сел за руль – даже не своего автомобиля! – и устроил жесткие покатушки, убегая от наряда ДПС. Слава Богу, это «ралли» проходило по полевой дороге, навстречу никто не двигался, но все было буквально на грани… Пассажиры авто от страха буквально выбрасывались из салона по ходу движения. Но более всех рисковал старший госавтоинспектор Дмитрий Городко: он попытался остановить безумца, когда тот приостановил на секунду-другую свой смертельный снаряд на колесах. Подскочил к открытой двери и хотел выдернуть ключ зажигания. Это, видимо, очень разозлило водителя. Потому что он вдруг ударил по газам, и висящего на дверках инспектора потащило за машиной: транспортное средство набирало скорость, а человека еще чуть-чуть и просто затянуло бы под колеса. Шаг до трагедии!





У меня останавливалось сердце, когда я пересматривала видео этой невиданной погони в Смолевичском районе – оно выложено на официальном сайте УВД Минского облисполкома. Конечно же, преступника за рулем (2,1 промилле в крови!) задержали: его автомобиль наконец свалился в кювет – кстати, без последствий для водителя. Молодой человек довольно быстро выбрался через боковое окно и собирался продолжить бег хоть на своих двоих. Но это было бы уже слишком неправдоподобно, все-таки он не агент 007. Сейчас этот обыкновенный обалдуй сидит в изоляторе временного содержания – отдыхает после перегрева. Вот я и поехала в Смолевичи, чтобы познакомиться лично и узнать его мнение о его собственной жизни. Он целенаправленно ищет смерти? Как говорится, пожалуйста. Но зачем рискует жизнями окружающих? ГАИ третий раз задерживает его в нетрезвом состоянии. Причем в чужих автомобилях – собственного у него никогда не было. Как и водительских прав.

Смолевичи летом – рай земной, дачный пригород столицы: ухоженный, зеленый, комфортабельный. Районный отдел ГАИ расположился в центре, как и остальные государственные учреждения. В нем прохлада и чистота, новая мебель и жалюзи. И начальник ГАИ Алексей Михайлович Бутько был вежлив. Но на все мои просьбы (предварительно переговорив с начальством, а как же!) ответил отказом: «Всё через пресс-службу!» Даже фамилию задержанного не назвал, будто в Смолевичах уже неделю на каждом углу не судачат о **Лешке Поляке**! Бюрократический, скажу вам, товарищ подполковник, подход к делу! Журналисты волнуются об общей для всех членов общества беде, о «смертниках» за рулем, у которых мы все – абсолютно все! – настоящие заложники. И не идти с нами на более близкое сотрудничество, отгораживаться пресс-службой, где информация дозирована и порой слишком стерильна, по меньшей мере недальновидно. Проблема пьяных водителей архиопасна. Это же терроризм на дорогах! Уже впору бить в набат, а не только информсообщения от УВД распространять.

И вообще, что за мода в последнее время пошла? Взять комментарий у чиновника – ну просто невыполнимая задача. Недоступная каста! Значит, есть такое распоряжение свыше? Архитектор какого-нибудь проекта или начальник троллейбусного парка – и те хором: «Пишите запрос!»

В Смолевичах после неудачного общения в ГАИ я пошла в народ, поехала в деревню Заречье, где проживает нарушитель, а там – сразу в «Евроопт». Магазин испокон веку главный информационный центр любого населенного пункта. И первый же кассир сказала, что Леша Поляк, как зовут его товарищи, – ее сосед. И рассказала, как проехать к его дому. Через восемь минут я стояла у зеленых ворот на широкой улице с новыми добротными строениями и разговаривала с родственниками Алексея Павлюкова. Конечно, наша встреча не была приятной. Дедушка Викентий Николаевич тяжко вздыхал: «Гены!» А отчим Владимир Авсиевич рассказывал, каким хорошим парнем еще недавно был Леша: кроликов держал, сам ухаживал за ними, никого не подпускал к животным. А теперь как выпьет…

– А пить ему нельзя, – объяснял Владимир.

– То есть алкоголизм? – уточнила я.

– Ну, алкоголик – это у нас вон сосед, он уже и дом пропил, и всё остальное. А Леше просто пить нельзя. Ну, пусть посидит теперь, подумает.

И дедушка вторил:

– Поделом…

Но пять протоколов за 6 июня (в дополнение к шести за погоню 28 мая, опять-таки устроенную А.Павлюковым), то есть второе задержание в нетрезвом состоянии за год, вождение без прав, плюс неподчинение инспектору ГАИ – это уже уголовная ответственность. Наказание будет жестким.

Мужчины вздыхали. А вокруг всё росло, цвело и радовало глаз: у хозяйки палисадник – на «десятку», огород – отличницы-медалистки, дом семьи – добротный, новый, под светлым сайдингом. Еще и надувной бассейн голубого цвета в центре участка. Можно сказать, визитная карточка трудолюбивого, целеустремленного среднего класса Беларуси, который все своими руками и на свои кровные. То есть рос А.Павлюков в нормальной атмосфере, а не в кладовке у наркоманов. Школу окончил как смог, теперь работает станочником в строительной компании. Но… впал в зависимость от алкоголя, которую пока, похоже, сам не осознает и которую, видимо, не осознают еще его близкие. Может быть, им кажется, что парень по молодости такой залетный. А ведь пора уже обращаться к врачам, алкоголизм – болезнь беспощадная, самостоятельно от нее не вылечишься. Но люди у нас к этой болезни порой так снисходительны… И ждут, что алкоголик должен сам захотеть излечиться. А если человек уже не в состоянии?!

И здесь самое время перейти к теме наказания за вождение в нетрезвом виде. Конкретно Павлюкова, как я уже написала, ждет уголовная ответственность. Наверное, пару лет ему придется провести в местах заключения. Машина конфискована, водительских прав у него и так не было. Но излечится ли он от недуга после заключения? Специалисты говорят, что без профессиональной помощи вряд ли. Так что какими бы суровыми ни были меры наказания нетрезвых водителей, бороться надо в первую очередь с пьянством. Потому что как замки на двери мы вешаем для честных людей, так и законы пишутся как минимум для психически здоровых. Для тех, кто слышит, реагирует и делает выводы. Суровое наказание останавливает людей вменяемых, ответственных. Но не человека с тяжелой зависимостью, в котором алкоголь убирает элементарную способность контролировать себя и ситуацию. Он – как Павлюков – забывает обо всем. Он расторможен, для него не существует ни настоящего, ни будущего. Его ничего не страшит. Не зря говорят, что пьяному море по колено. Ему пригрози даже смертной казнью, он захохочет: «Прорвемся!» Поэтому вывод мой неутешительный: мы все – заложники пьяных за рулем. Дай Бог никогда не встретиться с таким уродом на дороге. Но шансы, в общем-то, не так уж и малы. Так что ко всем техногенным катастрофам, которые невозможно предугадать и которые регулярно потрясают человеческое общество, еще и пьяные водители добавляют огромные риски. Такая жизнь…

Мы попросили известных специалистов прокомментировать эту проблему.

### Светлана Януш, психолог:

– Прежде всего близкие Павлюкова должны четко осознать, что парень тяжко болен и его надо лечить. В нашей стране, конечно, к алкоголизму отношение своеобразное, чуть ли не как к благородной культурной традиции: пили, пьем и будем пить. Но все-таки почти в каждом городе есть сообщество «Анонимные алкоголики». Оно очень действенное. Когда человек видит рядом с собой наглядный пример – трезвых людей, которые уже по многу лет не притрагиваются к спиртному, восстанавливают отношения, созидают, а не разрушают свою жизнь, то это очень мощно действует на него самого.

Конечно, хорошо, если человек приходит к мысли о помощи сам. Но его близкие должны хотя бы понимать, что алкоголизм выглядит именно так. «Захочет – перестанет» – это не срабатывает. Алкоголизм – болезнь, как сахарный диабет или бронхиальная астма, человек не может контролировать ее течение. Нужна специальная помощь. Мне нравится подход к этой проблеме в США. Там, если человек пойман в нетрезвом виде за рулем, то ему присуждается посещение общества анонимных алкоголиков в течение полугода. Либо полгода тюрьмы. На выбор. У нас же предусмотрены только карательные меры. Но даже через два-три года, выйдя из мест заключения, человек не перестает быть алкоголиком, если не занимался этой проблемой конкретно под наблюдением специалиста.

### Дмитрий Сайков, врач-психотерапевт, кандидат медицинских наук:

– Налицо факт гражданской безответственности, причем пример – вопиющий, вызывающий. Думаю, меры наказания таких водителей недостаточно действенны. Требуется, видимо, еще более жестко реагировать на подобные преступления. А насколько Павлюков спитый или не спитый, заочно трудно сказать. Возможно, речь идет уже о клинических проявлениях алкоголизма: человек, о котором вы пишете, не совсем адекватен. У него, возможно, патологическая форма опьянения. То есть он выпивает вроде бы редко, нерегулярно, но когда добирается до спиртного, не вписывается ни в какие рамки поведения, становится неадекватен и даже опасен для окружающих.

***

Как писали классики, алкоголизм – добровольное сумасшествие. Но когда сумасшествие касается только одного гражданина – это одна тема, а когда окружающих, то мы вправе себя от таких людей ограждать. Потому что рано или поздно их поведение заканчивается трагедиями. У Павлюкова уже определенная адреналиновая зависимость, ему время от времени хочется спустить пар. Но это, извините, уже очень опасно. Мы в полном вправе ограждать себя от подобного поведения. Мы живем не в джунглях.

**Елена МОЛОЧКО.**
*Смолевичский район.*

ЛІСТЫ З ПАЛЕССЯ

# 5. Альпень – радзіма «Пінскай шляхты»

## Свая страха – свая ўцеха

Усе палескія рэчкі бяруць прыклад з Прыпяці – таксама любяць разлівацца. Ці то вясной у паводку, ці то пасля летняй навальніцы, ці то ў восеньскую дажджэвіцу. Выйсці з берагоў ім вельмі проста, бо берагі – упоравень з паплавамі. Увогуле палескі краявід пераважна раўнінны, нездарма хтосьці з паэтаў, упершыню трапіўшы на Палессе, захоплена ўсклікнуў: *«Якая дзіўная краіна, / ва ўсе бакі відна яна, / куды ні глянь – адна раўніна, / і за раўнінай – раўніна!»*

Вёска Альпень больш за 500 гадоў таму неабачліва размясцілася ў поймах дзвюх рэчак – Гарыні і Львы, – таму неаднойчы рабілася закладніцай стыхіі. Старэйшыя альпенцы добра памятаюць, як сорак гадоў таму, у 1979-м, вада ў хатах стаяла па вокны, а па вуліцах гойсалі маторкі. Меншыя паводкі здараліся ледзь не штогод, пакуль вакол вёскі не ўзвялі ахоўную дамбу. З тае пары Альпень спіць спакойна. А мог бы стаць беларускай Венецыяй.

Зрэшты – кожнаму сваё. Хай ужо бесклапотныя венецыянцы пад амурныя песні катаюць рамантычна настроеных турыстаў па сваім горадзе ў гандолах. А калі ў цябе ў хляве вішчыць па вушы ў вадзе парсючок, а бульбу ў гародчыку трэба капаць з аквалангам, тут не да спеваў.

Здавалася б, звычайная вёска, нават не цэнтр сельсавета. Але альпенцы не бачаць сябе на задворках гісторыі. Наадварот. Апынуўшыся на перыферыі сельсавета, яны лічаць сваё паселішча (сам чуў на цвярозую галаву) цэнтрам сусвету! Ні больш ні менш. Паколькі ад Альпеня да Мінска, Брэста, Гомеля і Кіева – раўнюсенька па 300 кіламетраў. Сусвет у звыклым разуменні трохі большы, але ён, па маіх назіраннях, альпенцаў цікавіць мала.

Альпень звык жыць уласным розумам. Як кажуць, свая страха – свая ўцеха. У гэтым пераконваешся адразу, трапіўшы ў вёску. Пасярод яе ляжыць масіўны валун, усталяваны ў гонар «Пінскай шляхты». Чалавек неабазнаны іранічна пасміхнецца – пры чым славутая камедыя да Альпеня? Да таго ж, апрача ўласна пінчукоў, на ролю яе натхняльнікаў прэтэндуюць яшчэ і рубельцы.



Альпенец Пётр Шпакоўскі каля помніка «Пінскай шляхце».



Васілю Лемяшэўскаму ідзе 101-ы год.





Чырвонаармеец В.Лемяшэўскі (стаіць трэці справа), 1940 год.

Што ж, пагрэцца ў промнях чужой славы шмат каму хочацца, нават калі доказаў – кот наплакаў. Прызнацца, і ў альпенцаў няма на руках пісьмовай заявы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, што «Пінская шляхта» пісалася ў іхняй вёсцы. І ўсё ж прэтэнзіі іх не галаслоўныя, і валун з шыльдачкай узнік не на пустым месцы.

Справа ў тым, што Дунін-Марцінкевіч бываў у Альпені, нават напісаў там філасофскі верш «Вясна!». Палескія вёсны, бясспрэчна, заслугоўваюць клічніка, а вось палешукі тым разам пісьменніка чымсьці прагнявілі, бо твор свой ён закончыў радкамі: *«О Божа! Бясконцы дабра крыніцы, / калі твой люд, што цябе абражае, / замест кары з тваёй дзясніцы / такое багацце мае»*. А прыпіска ў канцы сведчыла – «Альпень, мая 12 дня 1849 года».

Тая прыпіска і прымусіла альпенцаў больш пільна ўчытацца ў тэкст «Пінскай шляхты». А пачынаецца яна з аўтарскай рэмаркі: «Дзея адбываецца ў ваколіцы А. паміж балотаў, у глушы Пінскага павета». Зразумела, што А. было расшыфравана як Альпень, тым больш адзін з герояў камедыі завецца Цімох Альпенскі. У яго на ўсю п’есу дзве з паловай кароткія рэплікі, але шляхецкая фанабэрыя з іх лезе, як цеста з дзяжы.

## Хто адбірае ў альпенцаў «Пінскую шляхту»?

Названыя аргументы і леглі ў падмурак мемарыяльнага каменя. І ляжаў бы ён нязрушна да другога прышэсця, каб не дзіўная дыскусія, якая апошнім часам разгарнулася вакол «Пінскай шляхты». Знайшліся аматары сенсацый, якія хочуць адабраць камедыю не толькі ў Альпеня, але і ў самога Дуніна-Марцінкевіча! Скажам, даследчык з Пінска Аляксандр Ільін мяркуе, што п’есу мог напісаць дырэктар Пінскай гімназіі Стэфан Куклінскі. Мовазнавец Фёдар Клімчук схільны быў перадаць лаўры аўтарства святару Дзмітрыю Булгакоўскаму, які выкладаў у Пінскім духоўным вучылішчы. А прафесар БДУ Ніна Мячкоўская так наўпрост і заявіла на старонках «Венскага славістычнага альманаха» (2000): «Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч не быў аўтарам «Пінскай шляхты».

А ўсё таму, што арыгінал камедыі напісаны на паляшуцкай гаворцы (знаёмы нам тэкст – заслуга Язэпа Лёсіка, які «выправіў» яго «на беларускі лад» і ў 1918 годзе надрукаваў у газеце «Вольная Беларусь»). На думку названых вышэй даследчыкаў, мінскі дваранін Дунін-Марцінкевіч не ведаў палескіх дыялектаў і напісаць твор, які ажно іскрыцца народным гумарам, не мог.

У палеміку быў вымушаны ўступіць светлай памяці **Генадзь Кісялёў** – даследчык з беззаганнай навуковай рэпутацыяй. Коратка перакажу тут ягоныя аргументы. Па-першае, існуе рукапіс «Пінскай шляхты», і адмысловая графалагічная экспертыза пацвердзіла – почырк належыць Дуніну-Марцінкевічу. Па-другое, сам драматург у лісце да сябра Яна Карловіча (яго знайшоў у архіве Язэп Янушкевіч) называе «Пінскую шляхту» ў пераліку сваіх твораў. Па-трэцяе, удзельніку паўстання 1863 года Дуніну-Марцінкевічу ніяк не выпадала прызнавацца ў аўтарстве твора, які тагачаснымі ўладамі быў забаронены. Па-чацвёртае, рукапіс «Пінскай шляхты» дачка пісьменніка Каміла пасля смерці бацькі прапанавала набыць таму ж Яну Карловічу. Па-пятае, менавіта Дунін-Марцінкевіч выдатна ведаў усе тагачасныя юрыдычныя рэаліі, бо працаваў у Крымінальнай палаце. Па-шостае, на аўтографе маюцца ўласнаручныя праўкі і шматрадковыя (!) дадаткі Дуніна-Марцінкевіча. Па-сёмае, драматург на Палессі запісваў народныя песні, шчодра выкарыстаныя ў «Пінскай шляхце». Па-восьмае, мова камедыі (пры ўсёй павазе да Ф.Клімчука) зусім не пінская, гэта хутчэй зборная імітацыя палескіх гаворак, якія чуў драматург падчас вандровак па берагах Прыпяці і Гарыні. Па-дзявятае, і ў «Пінскай шляхце», і ў паэме «Вечарніцы» (яе аўтарства не выклікае сумневаў) згадваецца адзін і той жа чалавек – знаёмец Дуніна-Марцінкевіча Юрый Кабылінскі. Па-дзясятае, камедыя напісана на палескім дыялекце, бо яе героі ні па-руску, ні па-польску, ні па-беларуску ў той час размаўляць проста не маглі...

Я пералічыў тут столькі кісялёўскіх аргументаў, бо маю наказ ад альпенцаў – бараніць Дуніна-Марцінкевіча як толькі магчыма! Калі «Пінская шляхта» застанецца ў яго творчай біяграфіі, то застанецца яна і ў Альпені. І камень з шыльдай па-ранейшаму будзе прываблiваць падарожнікаў. Праўда, як паказвае практыка, аргументы не заўсёды спрацоўваюць, і руйнавальнікі аўтарытэтаў звычайна працягваюць рабіць свае падкопы. Іх хлебам не кармі, а дай скінуць з п’едэстала якога-небудзь класіка. Прыкладам, славуты «Сказ пра Лысую Гару» ў сацсетках па-ранейшаму прыпісваецца каму заўгодна, каб толькі не дастаўся Нілу Гілевічу.

## Стогадовы альпенец

У Альпені жыве ці не самы старэйшы аматар «Пінскай шляхты» – стогадовы **Васіль Лемяшэўскі**. Ён бачыў яе па тэлевізары ў пастаноўцы Купалаўскага тэатра і дадае яшчэ адзін аргумент, які, на яго думку, прывязвае камедыю да Століншчыны. Аказваецца, амаль усе прозвішчы пыхлівых шляхцюкоў – мясцовыя. Скажам, з нядаўнім векавым юбілеем Васіля Данілавіча прыязджаў віншаваць старшыня Столінскага райвыканкама Рыгор Пратасавіцкі (улюбёны выраз яго аднафамільца ў «Пінскай шляхце» – «хрэн табе ў вочы!»).

Васіль Лемяшэўскі нарадзіўся 6 красавіка 1919 года ў «польскай» Альпені, на Другую сусветную вайну пайшоў з Альпені савецкай, трохі пажыў у паднямецкай Альпені, пры другіх Саветах загадваў альпенскай жывёлагадоўчай фермай, а стагоддзе сваё сустрэў у Альпені, што ў незалежнай Беларусі. Ужо адзін гэты пералік дазваляе гаварыць пра Васіля Данілавіча як пра жывую гісторыю вёскі. У свае 100 ён захаваў ясны розум і добрую памяць, жартуе, што сацыяльную работніцу за ім замацавалі маладую, так што і ён мусіць трымаць форму. А форма такая, што мне захацелася зазірнуць у ягоны пашпарт.

Разам з пашпартам найстарэйшы альпенец паказаў мне здымак 1940 года, на якім можна пазнаць 21-гадовага юнака ў будзёнаўцы. Служыў Васіль Лемяшэўскі ва Украіне пад Днепрапятроўскам. Вайна застала яго ў летніх лагерах. Васілю запомнілася, як камісар адправіў салдат бягом у казармы (за 70 кіламетраў!), а сам ехаў на кані. Пад Вінніцай сувязіст гаўбічна-артылерыйскага палка радавы Лемяшэўскі трапіў у палон. З-пад польскага горада Хэлм удалося ўцячы. Пешкі дайшоў дахаты. А там – немцы, якіх добрыя аднавяскоўцы паінфармавалі, што ўсе трое братоў Лемяшэўскіх – калгасныя актывісты, якія ў 1939-м забіралі ў гаспадароў коней, абразалі зямлю. І паехаў Васіль Данілавіч ізноў у лагер, гэтым разам у сумна вядомы Бухенвальд. Наглядзеўся на печы-крэматорыі, дзе палілі па 100 чалавек у дзень, думаў: гамон, не выжыве. Але Бог мілаваў, у 1944-м вызвалілі амерыканцы, перадалі Саветам, а тыя, нават не даўшы падмацавацца пасля лагера, адправілі на фронт.

## З вайны – на трафейным ровары

Успаміны Васіля Лемяшэўскага пра вайну адрозніваюцца ад тых, якія друкаваліся ў вялізнай колькасці за савецкім часам. «Дзень Перамогі я сустрэў пад горадам Веймар. Ох, і любілі нашы салдаты з немкамі пагуляць… Ды і прыадзецца ўсім хацелася. Помню, сяджу на камутатары – усім строіцца! Прыходзіць немец са старой бабулькай і аглядаюць шарэнгі. Чутно: найн, найн... А гэта нашы хлопцы паставілі іх да сценкі ды панабіралі сабе касцюмаў. Іх тады не знайшлі. А назаўтра мне тэлефануе асабіст: «Лемяшэўскі, напішы, як ваш маёр пастроіў увесь батальён, а нямецкія шпіёны хадзілі і пералічвалі салдат». Неяк удалося мне ад таго асабіста адкараскацца».

Увесь Альпень любіць пераказваць гісторыю, як Лемяшэўскі вярнуўся з вайны на трафейным ровары. Няўжо сапраўды з самой Германіі давялося круціць педалі?

«Паслухай, як было, – усміхаецца Васіль Данілавіч. – Прыходзіць неяк да мяне старшына: дастань у баўэра парсючка. Я за аўтамат, паехаў на ферму. Выбраў парсючка кілаграм на 80, прыстрэліў. Аж бачу – веласіпед стаіць на вуліцы пад плотам. Я за яго і ў часць. Ну, каб дамоў было на чым вярнуцца. А на другі дзень міністр абароны Булганін падпісаў указ аб узнагароджванні шарагоўцаў... веласіпедамі. І я ў спіску! Мне ў штабе выдалі паперку, пагрузіў я свой трафей, што стаў узнагародай, у вагон і прыехаў у Альпень на нямецкім ровары. Праўда, прыехаў толькі са Століна».

Працоўны стаж Лемяшэўскага – больш за паўвека. Працаваў на мясцовай цагельні, кладаўшчыком і брыгадзірам у калгасе, аж 26 гадоў адбыў загадчыкам фермы. Пенсіі на жыццё хапае. Мясцовая ўлада не забывае – на 100-годдзе старшыня калгаса Аляксей Барoдзіч 100 рублёў выпісаў.

Цікаўлюся, як Васілю Данілавічу ўдаецца не старэць. На вока яму можна даць гадоў 75 з хвосцікам. Стогадовы альпенец аджартоўваецца: «Гэта я ў канцлагеры адну бручку хрумаў і вычысціў з арганізма ўсе шлакі. І сёння ем свежыя яблыкі, агуркі, памідоры. Чаркай ніколі не захапляўся, амаль не курыў, часта хадзіў пешкі, а калі трэба было куды злётаць, то на ровары».

На развітанне жадаю старажылу Альпеня лёгкага лёту і надалей. Васіль Данілавіч адказвае прыказкай: «Што ж, ляцеў як хацеў, а ўпаў – як Бог даў».

## Конь за 1000 долараў і непрывабны калгас

Едучы пакручастымі альпенскімі вуліцамі (а іх у вёсцы аж 20), заўважаю на вільчыку хаты чалавека, які на вяроўцы спускае ўніз лісты шыферу. Аказваецца, хата прызначана сельсаветам на знос, а **Валодзя Лемяшэўскі** (так завуць верхалаза) яе разбірае. Без памочнікаў, адзін. Будуць дровы для мясцовых старых. Занядбаныя хаты ў Альпені ніхто не пускае пад бульдозер, як гэта мае месца, напрыклад, на Гродзеншчыне (у «Народнай Волі» за 21 мая быў мой артыкул «Закапаныя вёскі»).

Валодзя ўласнаручна разабраў ужо шэсць хат. Успамінае, як пры разборцы клуба (былой царкоўнай капліцы) знайшоў шмат розных падсвечнікаў, абразоў, старых кніг. Прыехалі аднекуль камерсанты і скупілі ўсё гуртом. А ў хатах нічога каштоўнага не застаецца – забіраюць сваякі ці суседзі. У Альпені мала пустых хат, хіба толькі на ўскраінах. А на цэнтральных вуліцах дамы хутка знаходзяць новых гаспадароў, пры іх будуюцца парнікі (адразу відно, дзе пасяліліся альшанцы). Хат пяць нядаўна набылі і рубельцы (хутка і з Альпеня пачнуць выходзіць святары).

Лемяшэўскі-малодшы звык працаваць на сябе, у калгас яго і кіем не загоніш. «За 200 рублёў працаваць на ферме падвозчыкам? Няма дурных. Я лепш пару хат разбяру ці абкашу на заказ сельсавета сядзібу-другую. Каня вось нядаўна купіў – за 1000 долараў. Дарагавата, але за сезон ён сябе акупіць. Буду людзям соткі садзіць, бульбу выгорваць, дровы вазіць. Без каня цяжка ў вёсцы пражыць. А ўзімку на сацыяльную пенсію пражыву – мне хопіць. Уся гародніна ў мяне свая, рыбы ў Гарыні налаўлю, а чырвоная мне нясмачная», – нецярпліва завяршае размову Валодзя і зноў лезе на страху.

## «Чырвонае-белае ўсё перадзелае»

А мяне нібы нейкая сіла яшчэ раз цягне да мемарыяльнага каменя. Проста на ім разгортваю аднатомнік Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, які захапіў з сабою на Палессе, знаходжу «Пінскую шляхту». Там самы красамоўны герой – шляхцюк Харытон Куторга, ён сыпле прыказкамі, як бульбай з каша: дзе панадзіцца юрыста, хату вымеце дачыста; млын меле – мука будзе, язык меле – бяда будзе; шляхта наша як нап’ецца, то палаецца й паб’ецца; чырвонае-белае ўсё перадзелае… Стоп. Чырвонае-белае? Што меў на ўвазе Дунін-Марцінкевіч? Ці не замаскіраваў ён у гэтай рэпліцы колеры нашага нацыянальнага сцяга?

Разы тры чытаў я «Пінскую шляхту», двойчы глядзеў на сцэне. І ні разу не прыкмячаў гэтага выразу: «Чырвонае-белае ўсё перадзелае». А ў Альпені ён сам у вока кінуўся.

Паўстанец 1863 года, Дунін-Марцінкевіч не мог не бачыць касінерскіх чырвона-белых харугваў і цэшак з Пагоняй. І вось уклаў у вусны герою прыказку-сімвал, каб нашчадкі памяталі пра змаганне беларусаў за сваю краіну.

Не забывайма ж і мы наказ класіка: чырвонае-белае ўсё перадзелае!

**Міхась СКОБЛА.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ



## Первая речь Владимира Караника

*Новый министр здравоохранения рассказал вчера, какими видит свои главные задачи на этом посту. Причем встреча с журналистами не была запланирована, на 13 июня готовилась пресс-конференция, приуроченная ко Дню донора. Но в последний момент расписание изменили… О чем говорил министр?*

### 1. О лекарственном обеспечении.

– Не будем скрывать, что население поднимает вопрос, почему у нас некоторые импортные лекарства дороже, чем у наших соседей. Это пока в планах, но мы будем плотно работать с представителями IT-сферы над разработкой веб-платформы в режиме онлайн, где каждый гражданин сможет разместить информацию о том, что где-то за границей он купил препарат. Мы проанализируем все обращения. Если на 30 процентов дороже – можно объяснить логистикой, доставкой, а вот когда в 1,5–2 раза – тут вопрос. В некоторых случаях цены будут приведены в соответствие, либо будем давать четкое обоснование, почему это происходит и что мы планируем делать дальше. Если у нас нет никаких возможностей снизить цены для нашей страны в связи с позицией производителя, тогда это будет задание для нашей фармпромышленности – осваивать свое производство.

### 2. О системе закупок медоборудования.

– На сегодняшний момент вопрос даже не в законодательной базе, а в правоприменительной практике. Естественно, потребует ревизии работа организаций, которые занимаются закупками. Это и «Медтехника», и «Белфармация». Будут регламентированы четкие сроки и процедуры закупок, чтобы убрать возможность влияния отдельных работников на принятие решений либо на скорость прохождения документов. Ведь основная борьба с коррупцией – это выработка четких правил, когда фактически от конкретного исполнителя, если все сделано по правилам, не зависит принятие решений. Желающих отклоняться от правил по объективным причинам не останется.

### 3. Об использовании дорогостоящего оборудования – КТ и МРТ.

– Министерство здравоохранения собирает информацию о средней длительности простоя, стоимости ремонта, запчастей. Мы хотим сравнить эту ситуацию с сопредельными странами, чтобы иметь или не иметь серьезный повод для разговора с производителями на предмет того, чтобы гарантийное обслуживание оборудования проводилось по-другому.

### 4.О доступности диагностики.

– Мы должны понимать, что есть клиническая эффективность работы системы и доступность медицинской помощи. Здесь есть несколько аспектов. Первый из них – когда медицинский работник определяет очередность доступа, исходя из интересов больного. Есть нозологии, где выполнение МРТ через два-три месяца никоим образом не изменит ситуацию. Но есть ситуации, когда промедление даже на 6–8 часов негативно скажется на пациенте. Мы должны создать четкую систему и объяснить населению, что в тех случаях, когда это действительно требуется, у нас есть все возможности оказать диагностическую помощь и лечение. В тех случаях, когда это не влияет на исход, иногда требуется определенное ожидание.

### 5. Об открытости руководства Минздрава.

– Не обещаю, что вся страна будет знать номер моего мобильного телефона. Но, думаю, есть потребность в создании механизмов прямой связи, чтобы люди могли донести свою боль в тяжелых ситуациях до руководства Минздрава. Мы будем это обсуждать и работать над более высокой открытостью, чтобы реализовать право граждан на получение оперативной и достоверной информации. … Планируем расширить практику брифингов по тем вопросам, которые наиболее волнуют общество и несут интерес для СМИ.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

SOS!

## На Дзітве памор рыбы...

Актывісты з Лідскага раёна распаўсюдзілі ў «Фэйсбуку» відэа, на якім відаць, што на рацэ Дзітва ў раёне вёскі Пескі загінула рыба. Людзі распавядаюць пра непрыемны пах ад вады – нібы з каналізацыі.

У Лідскай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пра гэта ведаюць. Начальнік інспекцыі **Андрэй Грос** сказаў «Народнай Волі», што ў чацвер з самай раніцы па дадзеным факце праводзіцца праверка, узяты пробы вады, а пра прычыны можна будзе казаць праз пяць дзён, калі будуць гатовы аналізы.

«*Папярэдне магу сказаць, што, магчыма, гэта звязана з гарачым надвор’ем, паколькі адбываецца цвіценне вады, а таксама зусім нізкая канцэнтрацыя кіслароду ў вадзе*, – зазначыў начальнік прыродаахоўнай інспекцыі. – *А што тычыцца непрыемнага паху, то канкрэтна цяжка нешта сказаць, хаця ён можа з’явіцца і ад гніення водарасцяў*».

«Народнай Волі» ўдалося звязацца з аўтарамі відэа, якое размешчана ў сацсетках. **Сяргей Пантус** упэўнены, што забруджванне адбылося з-за зліву каналізацыі.

«*Дакладна магу сказаць, што гэта не прыроднае забруджванне, паколькі я ведаю, як цвіце вада ў спёку*, – кажа Пантус. – *Там цячэ тэхнічны бруд. Я на Дзітве заўсёды рыбачу, звычайна там дно праглядаецца, а зараз вада шэрая і смярдзіць, як з каналізацыі*».

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

